# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

**№1 (2559)** 8 студзеня 1998 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 1 500 рублёў.


***ШАНОЎНЫЯ СУРОДЗІЧЫ! ДАРАГІЯ СЯБРЫ!***

***З нагоды Калядаў і Новага года маем гонар праз газету перадаць вам шчырыя віншаванні і найлепшыя пажаданні.***

***Сардэчна жадаем, каб гэтыя святочныя дні прынеслі вам толькі прыгожыя, радасныя пачуцці, умацавалі веру ў свае духоўныя сілы, надзею на шчаслівую будучыню, любоў да далёкай, але назаўсёды адзінай Маці-Беларусі.***

***Мы рады ад усяго сэрца дапамагчы ўсім, хто, нягледзячы на нялёгкі лёс і выпрабаванні, што дасталіся многім з вас, імкнецца захаваць традыцыі і звычаі першароднай зямлі, ладзіць сваё духоўнае і культурнае жыццё па запаветах продкаў.***

***Зычым вам здароўя, дабрабыту, асабістага шчасця!***

**ДЗЯРЖАЎНЫ КАМІТЭТ ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ.**




У навагоднюю ноч.

Фота Віктара СТАВЕРА.

## Васіль СТРАЖАЎ:

# «АДУКАЦЫЯ НЯСЕ САМАСВЯДОМАСЦЬ І САМАПАВАГУ»

*Як вядома, новы 1998 год дае пачатак рэформе сістэмы школьнай адукацыі ў краіне. Чым абумоўлена прапануемая грамадству акцыя? На якія вынікі спадзяюцца аўтары і арганізатары? На гэтыя і іншыя пытанні адказвае наш сённяшні субяседнік, міністр адукацыі Рэспублікі Беларусь Васіль СТРАЖАЎ.*

**— Васіль Іванавіч, дык што ж падштурхнула міністэрства на распрацоўку і ажыццяўленне рэформы школьнай адукацыі!**

— Адразу падкрэслю: рэформа агульнаадукацыйнай школы, якая пачнецца сёлета, не кан'юнктура, трэба было яе правесці яшчэ ў СССР — гадоў пятнаццаць назад, а то і раней. Таму цяперашнія змяненні не чыесьці жаданні, яны — неабходнасць, прадыктаваная аб'ектыўнай рэальнасцю. І працуем мы на падставе адпаведнага студзеньскага 1996 года Распараджэння Прэзідэнта Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі і жнівеньскай 1989 года пастановы ўрада.

Пэўныя зрухі ў даным накірунку ўжо назіраліся ў савецкі перыяд. Мы, дарэчы, абавязкова ўлічваем назапашаны вопыт, выкарыстоўваем лепшае, але некаторыя моманты ацэньваем як памылковыя, несучасныя і адмаўляемся ад іх, інакш зноў можа атрымацца зусім не тое, што плануецца.

Так, напрыклад, навучанне з шасці гадоў (менавіта такі варыянт прапануем і мы) уводзілася яшчэ ў 1977-м, у 1989-м ужо 85 працэнтаў шасцігодак селі за школьныя



парты. Сёння гэтая лічба, узятая ў сярэднім па Беларусі, зменшылася болей, чым удвая. Праўда, на вёсцы, дзе не хапае дзіцячых садоў, і малых, каб не сядзелі адны дома, хутчэй адпраўляюць у школу, лічба ўсё роўна захавалася высокай — 70 працэнтаў. А вось у Мінску ўпала аж да шасці працэнтаў. Спатрэбілася высветліць, у чым прычына, і выправіць праілкі.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

**У НОВЫ ГОД — З НОВЫМІ НАДЗЕЯМІ**

# ЦІ ЎДАСЦА СПРАВІЦЦА З БЕСПРАЦОЎЕМ!

Адкрываючы міжнародны навукова-практычны семінар "Праблемы сацыяльна-эканамічнай і псіхалагічнай рэабілітацыі беспрацоўных", які ў канцы мінулага года прайшоў у Мінску, міністр працы Рэспублікі Беларусь Іван Лях паведаміў прысутным, што вынікі дзесяці месяцаў 1997 года дазваляюць гаварыць аб з'яўленні першых прыкмет эканамічнага ажыўлення. Рост валавога ўнутранага прадукту, аб'ёмаў выпуску прамысловай і сельскагаспадарчай прадукцыі і вытворчасці тавараў народнага спажывання з'явіўся асноўнай прычынай паляпшэння становішча на рэспубліканскім рынку працы, дзе ўпершыню за апошнія шэсць гадоў было адзначана зніжэнне ўзроўню беспрацоўя. Колькасць беспрацоўных знізілася з 182,5 тысячы на 1 студзеня 1997 года да 134 тысяч на 1 лістапада 1997 года. Дзякуючы актыўнай палітыцы дзяржавы, на рэспубліканскім рынку працы толькі за 9 месяцаў 1997 года было створана 65 970 новых рабочых месцаў, што значна знізіла напружанасць на рынку працы. За той жа час пры садзейнічанні дзяржаўнай службы занятасці было працаўладкавана 109,8 тысячы чалавек, у арганізаваных для беспрацоўных на перыяд пошуку пастаяннай работы грамадскіх работах за 10 месяцаў мінулага года прыняло ўдзел 120 тысяч чалавек.

Аднак карціна таго ж беспрацоўя ў той жа рэспубліцы, намаляваная намеснікам старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Францам Вітко, выглядала крыху інакш. Пачаўшы сваё выступленне з напамінку аб тым, што "сыты думае аб рэформах, а галодны — аб рэвалюцыі", ён адзначыў, што праводзімая ў Беларусі дзяржаўная палітыка занятасці ў многім мае пасіўны характар і сама па сабе не можа прывесці да кардынальных змяненняў. Гарантыя забеспячэння занятасці чалавека пастаяннай работай залежыць ад палітычных, эканамічных, арганізацыйна-прававых умоў, існуючых у дзяржаве. Не выпадкова на Захадзе выведзены закон, у адпаведнасці з якім два працэнты росту валавога ўнутранага прадукту даюць рост павелічэння занятасці на адзін працэнт. Зніжэнне ж валавога ўнутранага прадукту на два працэнты дае адзін працэнт павелічэння колькасці беспрацоўных. Калі меркаваць па гэтаму паказчыку, то спад валавога ўнутранага прадукту на 34 працэнты, што адбыўся ў Беларусі за апошнія шэсць гадоў, даў узровень фактычнага беспрацоўя і змяншэнне колькасці занятых, як мінімум, на 17 працэнтаў. Тым не менш, па статыстычных даных, апошнім часам на рэспубліканскім рынку працы намецілася некаторая стабілізацыя. Аднак пры адносна невысокім узроўні афіцыйнага беспрацоўя захоўваюцца вельмі трывожныя сімптомы.

**(Заканчэнне на 3-й стар.).**

НАШЫ СЛАВУТЫЯ ЗЕМЛЯКІ

# ПАРТЫЗАНСКІ ГЕНЕРАЛ З АМЕРЫКІ



28 кастрычніка 1918 года ў горнаалтайскай казацкай станіцы Чарышскай нечакана з'явіўся незнаёмец. На выгляд яму было 30—35 гадоў. Чарнявы, волатаўскага целаскладу, высокі — амаль два метры, шыракаплечы, з вялікімі натруджанымі рукамі, ён вельмі адрозніваўся ад мясцовых жыхароў.

Дзіўным для іх было вымаўленне гэтага чалавека, у яго часта праскоквалі беларускія і замежныя словы. Пры гэтым ён выказваў смелыя думкі.

— Кожны, — казаў ён, уступаючы ў размову з чарышскімі казакамі, — далжон мець павадыра ў галаве.

І зусім ужо незразумела і нечакана, коратка і рэзка, быццам адсякаў, заканчваў размову:

— Іес!

— Мерыканец! — сказаў нехта аб ім.

Гэтым "мерыканцам" быў наш зямляк — беларус Іван Траццяк, які нарадзіўся ў 1894 годзе ў вёсцы Ракашычы Койданаўскай воласці Мінскага павета (зараз Сямёнавіцкі сельсавет Уздзенскага раёна Мінскай вобласці) у сям'і селяніна-бедняка.

Менавіта з Амерыкі вяртаўся І. Траццяк у Савецкую Расію, калі даведаўся, што там перамагла рэвалюцыя. Аднак, пакуль праз Японію, Карэю, Кітай, Далёкі Усход і Маньчжурыю ён дабіраўся да Расіі, уся Сібір была ўжо захоплена арміямі адмірала Калчака. Не здолеўшы праз лінію Усходняга фронту прабіцца ў цэнтральныя вобласці Расіі, каб адтуль накіравацца на радзіму — у Беларусь, І. Траццяк у Нованікалаеўску паварочвае на поўдзень і прыязджае ў станіцу Чарышскую, дзе жылі яго бацька, два браты і сястра. Тут і застала яго масавае выступленне сялян супраць калчакаўшчыны.

У жніўні 1919 года ў тыле армій Калчака выспявала сялянскае паўстанне. І горнаалтайскія партызаны выказалі гэтаму "мерыканцу" поўны давер. Спярша ён быў прызначаны камісарам па арганізацыі партызанскага руху, потым камандзірам партызанскай брыгады, а пазней і начальнікам дывізіі. Гэтая дывізія да канца баёў на Усходнім фронце кантралявала ўвесь Горны Алтай.

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны І. Траццяк пасяліўся ў Бійску. У 1933 годзе ў Новасібірску выйшла яго кніга "Партызанскі рух у Горным Алтаі ў 1919 годзе".

...Сталінскія рэпрэсіі не абмінулі і І. Траццяка. У 1937 годзе ён быў арыштаваны і абвінавачаны ў шпіянажы як германскі, японскі, карэйскі, амерыканскі шпіён. Ноччу да Траццяка прыехалі энкэвэдысты, зрабілі вобыск, паклалі на насілкі (у яго былі паралізаваны ногі) і павезлі на допыты. Так ён, хворы, апынуўся ящчэ і ў "яжовых" рукавіцах. І расстраляны.

Яго кніга была забаронена. Назва "Першая горнаалтайская партызанская дывізія" перастала ўпамінацца ў літаратуры, прысвечанай гісторыі грамадзянскай вайны ў Сібіры і Горным Алтаі.

Так цягнулася да 1954 года. Пасля смерці Сталіна ў краіне наступіла так званая хрушчоўская "адліга". Пачалася рэабілітацыя бязвінна асуджаных людзей. Нарэшце справа камандзіра Першай горна-алтайскай партызанскай дывізіі паступіла для перагляду ў Ваенны трыбунал.

І. Траццяк быў рэабілітаваны пасмяротна. Нарэшце надышоў час аднавіць імя дывізіі і яе баявога камандзіра. За гэтую справу ўзяўся беларускі гісторык А. Валахновіч, які неаднойчы ездзіў у Горны Алтай, гутарыў з паплечнікамі І. Траццяка па партызанскай барацьбе, вывучаў гістарычныя матэрыялы ў музеях Бійска, Барнаула, іншых гарадоў.

* * *

Уздзеншчына — маляўнічы куток Беларусі. Тут прыгожыя лясы, заліўныя лугі. Тут бярэ пачатак і імклівы Нёман. На беразе рэчкі Ракашанка стаіць вёска Ракашычы, дзе і нарадзіўся І. Траццяк.

Ракашане ў мінулым прымалі актыўны ўдзел у рэвалюцыйным руху, выступалі супраць існуючага парадку, спрачаліся за зямлю з графам Чапскім. Гэтая рэвалюцыйнасць аднавяскоўцаў паўплывала і на маладога Траццяка. У 1904 годзе ён збліжаецца з рэвалюцыйна настроенымі студэнтамі, вядзе агітацыйную работу, прымае актыўны ўдзел у аграрным руху сялян, выступае супраць руска-японскай вайны. У 1907 годзе паліцыя звяртае пільную ўвагу на яго дзейнасць. Ён трапляе пад тайны нагляд паліцыі і ўцякае за мяжу, спачатку ў Германію, а потым пераязджае ў Амерыку. Бацька яго, Якаў Лявонавіч, пражыў цяжкае і доўгае жыццё. Да апошніх сваіх дзён жыў у сям'і малодшага сына Аляксандра. Маці Еўдакія Траццяк памерла ў 1907 годзе адразу пасля ад'езду сына Івана за мяжу. Не вытрымала матчына сэрца.

Малодшы брат І. Траццяка Аляксандр у 1909 годзе скончыў сельскагаспадарчую школу і быў накіраваны на практыку ў Сібір. Там ён здаў экзамены на званне народнага настаўніка, ажаніўся і пераехаў настаўнічаць у станіцу Чарышскую. І адразу, у 1913 годзе, да яго з Беларусі пераехалі жыць бацька Якаў Лявонавіч, сястра Соня, брат Міша.

І. Трацццяк у канцы кастрычніка 1918 года трапіў у Чарыш-

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## КАЛЯДНЫЯ ЎЗОРЫ





**У Нацыянальным музеі гісторыі і культуры працуе выстава "Калядныя ўзоры". Пяты раз беларускі Саюз майстроў народнай творчасці запрашае на сустрэчу з народным мастацтвам. З года ў год экспазіцыя "Калядных узораў" становіцца больш змястоўнай і багатай. Выстава дэманструе не толькі мастацтва ўжо вядомых майстроў, але і адкрывае новыя імёны.**

**Роспіс па шклу і дрэву Ларысы Зайцавай, кераміка Валерыя Зінкевіча, вышытыя іконы Надзеі Петрушко, роспіс па дрэву Ганны Бетанавай — гэтыя работы сталі ўпрыгажэннем выставы. Уразіла ўсіх сваімі ёлачнымі цацкамі з саломкі Ганна Іванова. Звыш ста залацістых мініяцюр, якія не паўтараюцца па форме, упрыгожылі калядную ёлку ў выставачнай зале.**

**НА ЗДЫМКАХ: на выставе "Калядныя ўзоры"; работа Ларысы ЗАЙЦАВАЙ "Каляды"; калядную ёлку ўпрыгожылі работы з саломкі Ганны ІВАНОВАЙ; кераміст Сяргей ШЧЭРБА з Пастаўскага раёна "агучваў" на выставе свае акарыны і свістулькі.**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**





**Старшыня КДБ Рэспублікі Беларусь Уладзімір Мацкевіч перадаў Расійскай Федэрацыі іконы, затрыманыя ў мінулым годзе пры спробе іх кантрабанднага вывазу за мяжу. Гэтыя рэліквіі былі выкрадзены з тэрыторый Смаленскай, Цвярской і Іванаўскай абласцей Расіі. Усе 33 іконы, па ацэнках мастацтвазнаўцаў, маюць мастацкую і гістарычную каштоўнасць.**

**Гэтая акцыя — вынік рэальнага ўвасаблення дагавораў, якія існуюць паміж КДБ Беларусі і ФСБ Расійскай Федэрацыі аб сумеснай дзейнасці па забеспячэнню бяспекі нашых краін. КДБ Беларусі і ФСБ Расіі ўжо выявілі і кантралююць шэраг каналаў кантрабанднага вывазу мастацка-культурных каштоўнасцей.**



**НА ЗДЫМКУ: у час перадачы ікон Надзвычайнаму і Паўнамоцнаму Паслу Расійскай Федэрацыі ў Беларусі Валерыю ЛАШЧЫНІНУ старшынёй КДБ Рэспублікі Беларусь Уладзімірам МАЦКЕВІЧАМ.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

## Васіль СТРАЖАЎ:

# «АДУКАЦЫЯ НЯСЕ САМАСВЯДОМАСЦЬ І САМАПАВАГУ»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Зараз дзяржава стварае шасцігадовым вучням у школе такія ж умовы, якія дагэтуль забяспечваў толькі дзіцячы сад, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі ўтрымліваюцца амаль цэлы дзень, а іх бацькі плацяць 10 працэнтаў ад поўнага кошту выдаткаў. Канешне, мы імкнемся, каб большасць падрыхтоўчых класаў існавала на базе менавіта дзіцячых садоў. Але, мяркую, дасягнуць гэтага магчыма толькі недзе ў двухтысячным годзе.

Недасканалай аказалася і спроба адмовіцца ад уніфікаванага падыходу да вучняў і самога адукацыйнага працэсу. Тады з'явіліся так званыя спецкласы з паглыбленым вывучэннем замежных моў, матэматыкі, музыкі і г. д., што пазней выклікала стварэнне гімназій і ліцэяў. Аднак працэс увогуле станоўчы даў і адмоўныя вынікі, напрыклад, значна ўзмацніліся нагрузкі на школьнікаў, асабліва ў профільных навучальных установах, якія таксама набылі рысы адасобленасці, непатрэбнай элітарнасці. Гэта прынесла шкоду адукацыі ўвогуле, бо вакол такіх нешматлікіх астраўкоў з высокім узроўнем навучання раскінулася цэлае мора шэрых, "ніякіх," школ.

Такім чынам, бачым: "уводзіні" шасцігодак — не стварылі неабходных для таго ўмовы, пачалі дыферэнцыраванае навучанне — але, фактычна, у рамках ранейшай уніфікаванай жорсткай структуры.

Трэці момант, які таксама варта згадаць, — абавязковасць школьнай адукацыі. Яна захоўваецца, аднак тут узнікае прынцыповае адрозненне: тыя ж абавязковыя дзесяць класаў, але не на базе агульнай сярэдняй школы, а ў рамках асноўнай (няпоўнай). Пры такім падыходзе адпадае неабходнасць прад'яўляць пагалоўна да ўсіх завышаныя патрабаванні, зніжаецца нагружанасць чыста тэарэтычнымі, абстрактнымі ведамі. Падрыхтоўка ўзмоцніцца на заключных этапах — для тых, хто жадае вучыцца далей, атрымаць вышэйшую адукацыю.

Карацей, на першы погляд, здаецца, мы вяртаемся да таго, што ўжо нядрэнна знаёмае, можа і так, але на новай аснове, з прынцыпова іншымі падыходамі да пабудовы навучальных планаў і курсаў. У прыватнасці, праграмы будуць разгружаны, асабліва ў пачатковай школе. І што вельмі важна, ставіцца задача (а яна складаная і доўгатэрміновая): змяніць саму тэхналогію абучэння ў малодшых класах. Тут мы адсталі ад заходніх калег, лічу, гадоў на дваццаць. Пакуль найлепшая мадэль адпрацоўваецца ў эксперыментальных класах, пазней яна атрымае агульнае прымяненне. Спадзяюся, гадоў праз дзесяць наша агульнаадукацыйная школа стане адпавядаць лепшым сусветным стандартам.

**— Ці разумеюць вас настаўнікі, сярод якіх хапае кансерватыўна настроеных людзей?**

— Што тычыцца настаўнікаў, то працэс абнаўлення ідзе. Прынамсі , у пачатковай школе працуе практычна адна моладзь.

Спачатку назіралася моцнае процідзеянне ідэям рэфармавання як з боку настаўнікаў, так і грамадства ўвогуле. Тым не менш, калі нядаўна парламенцкая камісія па адукацыі правяла сацыялагічнае даследаванне, яго вынікі нават мяне здзівілі: 70 працэнтаў выкладчыкаў падтрымліваюць рэформу. Праўда, здаралася сутыкацца і з тым, што многія яшчэ не да канца разумеюць сэнс змяненняў. Тут пакуль неабходна працаваць, тлумачыць, бо поспех рэформы залежыць ад таго, наколькі правільна ўспрыме яе масавая свядомасць.

**— А што сёння ўскладняе правядзенне рэформы!**

— Баюся толькі аднаго: каб у кагосьці не ўзнікла жаданне фарсіраваць тэмпы. Зараз ужо чуюцца прэтэнзіі: маўляў, марудна рухаемся. Хаця, як я ўжо казаў, напачатку многія ўвогуле не выказвалі жадання рушыць па прапанаванай дарозе наперад. Маё меркаванне: сапраўднае рэфармаванне школы павінна весціся непрыкметна для грамадства, для бацькоў, каб не было рэзкіх перапомаў. Чым адрозніваецца адукацыйная рэформа ад усякай іншай? Яна ні на адным этапе не павінна прыводзіць да пагаршэння сітуацыі, нават кароткачасовага. Таму, калі ўсё пойдзе, як плануецца, праз дванаццаць гадоў ніхто і не заўважыць, як школа стане іншай.

**— Нярэдка можна чуць і, лічу, не без падстаў, што наша грамадства не да канца вызначылася ў тым, куды ідзе і чаго хоча. Ці не здарыцца так, што вы і вашы калегі будзеце руплива будаваць новую школу, а тая потым не ўпішацца ў агульную канцэпцыю дзяржаўнага развіцця!**

— Таких апасенняў няма: ужо бясспрэчна — краіна будуе грамадства з рыначнай эканомікай. Іншая справа, наколькі моцным атрымаецца дзяржаўнае рэгуляванне. А пра важнасць адукацыі ў развітых рыначных краінах, мяркую, ведаюць усе. Хочаш мець хлеб з маслам — вучыся.

**— Аднак і ў савецкім грамадстве адукацыя расцэньвалася як магчымасць атрымаць хлеб менавіта з маслам.**

— У Савецкім Саюзе адукацыя забяспечвала не столькі дабрабыт — хлеб з маслам тады мелі ўсе, колькі больш высокі сацыяльны статус. Павышэнне сацыяльнага статуса, безумоўна, так і застаецца адной з прывілей адукацыі, але зараз ад яе наяўнасці і якасці таксама залежыць і матэрыяльнае становішча чалавека.

Калі казаць глабальна, а ў нас, як мне падаецца, гэта доўга не ўсведамлялася: прынцыповае адрозненне паміж развітымі краінамі і тымі, што толькі на шляху развіцця, не столькі ва ўзроўні даходаў (гэта, безумоўна, вельмі важна і паказальна), колькі ў арганізацыі якаснай сістэмы адукацыі. Чаму ў нашых людзей захавалася адчуванне: нахай мы бедныя, але не горшыя за іншых? Дзякуючы адукацыі. Менавіта яна нясе самасвядомасць і самапавагу.

**— У чым вы бачыце ядро, квінтэсенцыю будучай рэформы!**

— Я ўжо казаў: перайсці ад адукацыі для ўсіх да адукацыі для кожнага. Было б нядрэнна, каб школа зрабілася дзецям нібы другім домам.

**— Ці не адаб'юцца на паспяховым правядзенні рэформы агульныя фінансавыя праблемы, што існуюць у краіне ўжо працяглы перыяд!**

— Я зараз скажу такую рэч, якая многім у школе не падабаецца. ААН праводзіла даследаванне ўзаемазалежнасці матэрыяльнага забеспячэння школы і ўзроўню адукацыі. Устанавілі: ніякай сувязі паміж імі няма. Канешне, пры стварэнні пэўнага матэрыяльнага мінімуму, які мы ўжо, дарэчы, маем. На першы план выходзіць менавіта пабудова вучэбных праграм, сам працэс навучання.

**— Такім чынам, калі школа — родны дом, то там будуць не толькі вучыць, але і выхоўваць!**

— Прынамсі, выхоўваць патрыятызм школа павінна. Зыходзячы з уласных традыцый і сусветнага вопыту. Не можа быць патрыётам чалавек, які не любіць уласны дом, сваю сям'ю, зямлю, дзе нарадзіўся. Калі школа прывівае і падтрымлівае такія пачуцці, яе можна толькі вітаць. Аднак я лічу: рашаючы ўклад у выхаванне ўносіць непасрэдна навучальны працэс.

**— Дзякуй, Васіль Іванавіч, за гутарку. Мы разам з вамі шчыра спадзяемся на поспех пачатай справы.**

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

# ЦІ ЎДАСЦА СПРАВІЦЦА З БЕСПРАЦОЎЕМ?

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Адзін з іх — рост працягласці тэрміну знаходжання без працы. На працягу шэрагу гадоў колькасць "доўгатэрміновых" беспрацоўных расце як у абсалютным, так і ў адносным выражэнні. І калі ў пачатку года ў краіне было каля 20 тысяч беспрацоўных "са стажам", то цяпер іх ужо каля 40 тысяч. Калі ўдзельная вага працягла не працуючых у пачатку года складала каля 15 працэнтаў, то сёння іх ужо 22 працэнты. Па Гомельскай і Мінскай абласцях гэтыя паказчыкі адпаведна складаюць 24 і 27 працэнтаў, у Мазыры, Петрыкаве, Лоеве колькасць працягла не працуючых даходзіць да 50 працэнтаў, у Ганцавічах 24 працэнты беспрацоўных не могуць знайсці работу ад трох да пяці гадоў. Сярэдняя працягласць знаходжання без працы ў рэспубліцы складае 8,5 месяца.

Сёння каля 50 працэнтаў беспрацоўных прыпадае на маладзёжную групу да 29 гадоў, яшчэ каля 25 працэнтаў складаюць прадстаўнікі найбольш працаздольнай узроставай групы ад 30 да 40 гадоў, асабліва інтэнсіўна шэрагі беспрацоўных папаўняюцца за кошт людзей з вышэйшай і сярэднеспецыяльнай адукацыяй. Нярэдкія сітуацыі, калі выпускнік ВНУ практычна адразу пасля яго заканчэння аказваецца беспрацоўным. У сувязі з гэтым паўстае праблема фарміравання дакладнага прагнозу дынамікі попыту на рынку працы і фарміравання адэкватнай прапановы. Як паказвае практыка вырашэння гэтай праблемы ў краінах Еўрапейскай супольнасці, Польшчы і нават Расіі, гэтую праблему найбольш эфектыўна вырашаюць прыватныя агенцтвы занятасці, так званыя "рэкрутынгавыя" фірмы. У сувязі з гэтым канфедэрацыя прамысloўцаў і прадпрымальнікаў Беларусі лічыць мэтазгодным, каб урад у асобе Міністэрства працы выступіў ініцыятарам ратыфікацыі Нацыянальным сходам Рэспублікі Беларусь Канвенцыі нумар 181 Міжнароднай арганізацыі працы "Аб прыватных агенцтвах занятасці" ад 19 чэрвеня 1997 года з наступным дапаўненнем дзеючага нацыянальнага заканадаўства ў галіне працы і занятасці. Спецыфічнай рысай рынку рабочай сілы ў Беларусі стала няпоўная занятасць і скрытае беспрацоўе, рэзыдывам якога выступае так званае застойнае беспрацоўе. Пра гэта сведчыць тое, што сёння ў рэжыме няпоўнага рабочага часу працуе прыкладна 240 тысяч работнікаў, занятых у народнай гаспадарцы. Яшчэ прыкладна 250 тысяч знаходзяцца ў вымушаных водпусках па ініцыятыве адміністрацыі, у тым ліку каля 115 тысяч у водпусках без захавання заработнай платы. Гэта прыкладна паўмільёна чалавек, якія, хоць і лічацца занятымі, на самай справе з'яўляюцца беспрацоўнымі. Яшчэ амаль паўмільёна чалавек апошнім часам пайшлі з дзяржаўных прадпрыемстваў і сёння занятыя ў так званай хатняй гаспадарцы. Частка грамадзян, што належаць да гэтай катэгорыі, спачатку не могуць знайсці работу, а потым у сілу пэўных прычын не хочуць яе шукаць. А некаторыя з іх з часам папаўняюць шэрагі бадзяг. Па сутнасці, стварэнцца ўмовы для люмпенізацыі паўнацэннай рабочай сілы. Усё гэта можна разглядаць як элементы фактычнага беспрацоўя, якое, па ацэнках прафсаюзаў, вагаецца ад 10 да 15 працэнтаў, а па ацэнках Мінскага дзяржаўнага інстытута сучасных тэхналогій і маркетынгу, — 15—20 працэнтаў. Пры такіх паказчыках цалкам заканамерна ўявіць, што не сёння-заўтра наступіць момант, калі ўсё, у тым ліку і скрытае беспрацоўе, будзе легалізавана і многія з тых, хто сёння яшчэ лічыцца занятым, будуць выкінуты за прахадную.

Заходнія эканамісты ўжо даўно лічаць, што пры 10—12 працэнтах беспрацоўных у грамадстве пачынаюцца працэсы, якія вядуць да сацыяльнага выбуху. Ва ўсім свеце дзяржава разглядае прадпрымальніцкія структуры, як надзейнага саюзніка ў барацьбе з беспрацоўем. У гэтай сувязі вялікую цікавасць уяўляе вопыт Масквы, буйнейшага мегаполіса, дзе, тым не менш, самы нізкі ў Расіі ўзровень беспрацоўя, усяго 0,8 працэнта. Дасягнута гэта ў значнай ступені дзякуючы развіццю прадпрымальніцтва, паколькі больш мільёна выслабаненых з дзяржаўных прадпрыемстваў работнікаў працуюць сёння ў недзяржаўных сферах эканомікі, а малы і сярэдні бізнес прыносіць амаль палову даходаў у гарадскі бюджэт.

Наглядны ілюстрацыяй адносін да гэтай праблемы ў Беларусі з'яўляецца гісторыя з перарэгістрацыяй суб'ектаў гаспадарання. Да пачатку перарэгістрацыі іх было 206 тысяч, пасля яе засталося 92 тысячы. Ці варта гаварыць, колькі людзей у выніку гэтай акцыі аказаліся без работы. Небяспека, якая ўзнікла ў краіне ў сувязі са скрытым беспрацоўем, заключаецца ў тым, што яно закалыхвае органы дзяржаўнага кіравання, паколькі сацыяльная напружанасць нібыта адсутнічае, людзі нібыта ўладкаваны, хаця і працуюць не поўны тыдзень ці знаходзяцца ў вымушаных водпусках. Падругое, такая сітуацыя задавальняе кіраўнікоў асобных прадпрыемстваў, якія лічаць, што галоўнае — утрымаць на вытворчасці кадры, а там, глядзіш, надыдзе час, калі з'явяцца заказы, сыравіна і матэрыялы. Тым не менш, такое становішча крайне небяспечнае, паколькі скрытае беспрацоўе кансервуе сітуацыю, а не вырашае яе.

Неадкладная легалізацыя скрытага беспрацоўя таксама можа абярнуцца трагедыяй як для людзей, так і для эканомікі. Вызваленне прадпрыемстваў ад залішняй колькасці працаўнікоў павінна суправаджацца прэвентыўным стварэннем надзейных сацыяльных амартызатараў, паглынаючых вызваляемую рабочую сілу, структурнай перабудовай эканомікі, міжгаліновым пераразмеркаваннем рабочай сілы, змяненнем сістэмы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў з улікам патрэбы рынку працы. Усім суб'ектам сацыяльнай палітыкі трэба нарэшце зразумець, што эканамічныя рэформы не толькі не дадуць належнага выніку, але нават і не пачнуцца да таго часу, пакуль будуць існаваць скрытыя ўнутрывытворчыя рэзервы рабочай сілы.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# НАС ВІНШУЮЦЬ І НАМ ЗЫЧАЦЬ

**Вельмі шаноўных супрацоўнікаў "Голасу Радзімы" і чытачоў газеты ў замежжы і на радзіме сардэчна віншую з Калядамі і Новым, 1998 годам! Жадаю поспехаў ва ўсіх справах, шчасця, моцнага здароўя, а нашай маці-Радзіме — працвітання, дабрабыту, уваходу ў Еўрапейскую супольнасць. Жыве Беларусь!**

**З павагай —**
**Пятрусь КАПЧЫК, кіраўнік гурта беларускай культуры "Зорка Венера".**

г. Ізяслаў, Украіна.

**Шчыра вітаю рэдакцыю газеты "Голас Радзімы" з Новым годам!**
**Ваша газета з'яўляецца для мяне своеасаблівым ваконцам, якое дае магчымасць атрымліваць інфармацыю з Бацькаўшчыны. Артыкулы, што друкуюцца ў газеце, узбагачаюць мяне гісторыяй і культурай майго народа.**
**Добра ведаючы, што "Голас Радзімы" распаўсюджваецца ў іншых краінах свету, віншую таксама з Новым годам маіх землякоў. Жадаю ім, як і рэдакцыі, моцнага здароўя, бадзёрасці духу і чалавечага шчасця.**

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

Манчагорск Мурманскай вобласці.

**Паважаныя землякі!**
**Хачу павіншаваць з Новым годам усіх знаёмых і незнаёмых мне братоў-беларусаў. Будзем спадзявацца на лепшую долю ў наступным годзе. Дай жа Божа здароўя і згоды, каб Беларусь зноў стала прыемным узорам для ўсіх былых савецкіх і нават еўрапейскіх краін!**
**З Новым годам!**
**А пра сваю жытку і казаць няма чаго, бо яна такая, як і ў мільёнаў нам падобных. КАМАЗ — банкрут, і гэтым усё сказана. Слава Богу, што я паспеў зарабіць сабе сціплую пенсію, а то хоць ідзі на рынак, а мне гэта справа дужа абрыдлая, трэба мець хватку і пэўную меру нахабства. Людзі развучваюцца пець песні на вуліцах, часцей пачуеш адборны мат і стральбу з самапалаў, чым правільную мову.**
**Наступіла эра вялікага хамства, і каб з ім справіцца, тут, на мой погляд, патрэбна і добрая дубіна.**
**Нашы продкі былі не дурнейшыя за нас і зналі, як лячыць такую заразу, як хамства, свінства і іншыя людскія хваробы. Вельмі шкада, што другам чалавека становіцца сабака. Сумна, спадары.**
**Цяпер хачу асобна падзякаваць вам за газету. Гэта ручаёк інфармацыі. Недзе на прасторах Расіі губляецца яна і даходзіць з вялікім запазненнем, а то і зусім прападае.**
**Са святам вас!**
**З Новым годам!**

**З павагай**
**былы паляшук з Парэчча**
**Анатоль БЕНЕДЗІКТОВІЧ.**

Расія.

## СЛЕД ЖЫЦЦЯ



На рабочым стале Міхася Тондзеля засталіся пісьмы. Вашы пісьмы, дарагія суайчыннікі, чытачы "Голасу Радзімы". Бо, як правіла, яны дасылаюцца на імя галоўнага рэдактара радыёстанцыі "Беларусь", што вы можаце прымаць на каротказхвалевых прыёмніках штодня ад 19 да 21 гадзіны паводле Грынвіча. Кіраўніком радыёстанцыі апошнія гады быў Міхась Тондзель. 20 снежня гэтага года было 40 дзён, як родныя, блізкія, тыя, хто ўвесь час працаваў поплеч, праводзілі яго ў апошні шлях.

35 гадоў з пражытых 60-ці Міхасём Тондзелем аддадзены Беларускаму радыё. Напачатку гэта была работа над моваю, стылем, трапным ужываннем роднага слова ў перадачах, што гучалі ў эфіры. Яго прафесіяналізм, працавітасць, уменне ладзіць з людзьмі былі заўважаны, і неўзабаве ён — адзін з кіраўнікоў Беларускага радыё. Таму і ішлі пісьмы з розных куткоў свету менавіта на яго імя. Міхась Раецкі з Аўстраліі высока ацаніў перадачы радыёстанцыі "Беларусь" і нават папрасіў даслаць яму копію адной з аўтарскіх перадач цыкла "Рупліўцы нацыянальнае нівы" Міхася Тондзеля. Дарэчы, ён стаў не толькі ініцыятарам гэтага праекта, але і стваральнікам многіх перадач пра людзей, якія складаюць гонар нашай Бацькаўшчыны.

У рэдакцыі захоўваюцца пісьмы-водгукі, віншаванні Леанарды Малеевай з Італіі, Лідзіі Пінчук з Іспаніі, Кота Прыступы з Германіі, Віталя Кажана, Сяргея Чарняка са Злучаных Штатаў Амерыкі і многіх іншых нашых замежных землякоў, слухачоў радыёстанцыі "Беларусь" і чытачоў газеты "Голас Радзімы".

Мінулай вясной радыёстанцыі "Беларусь" споўнілася 35 гадоў. І нельга не прыгадаць, што 12 гадоў назад менавіта Міхасю Тондзелю ўдалося наладзіць пастаяннае вяшчанне для слухачоў на нямецкай мове. Гэта, зразумела, выклікала новы прыток пісьмаў з Германіі, Аўстрыі, Люксембурга.

Адкрыць самастойнае вяшчанне на замежнай мове з Мінска (не праз Маскву) пры тагачасным таталітарным рэжыме было вельмі няпроста. Міхасю Тондзелю давялося пераконваць у неабходнасці пашырэння беларускага вяшчання Цэнтральны Камітэт партыі рэспублікі, ЦК КПСС у Маскве. Міхася Тондзеля вельмі паважалі калегі з вяшчання на замежныя краіны ў Маскве і таму дапамагалі чым маглі. Яму паверылі. Шчаслівая якасць чалавека, калі яму давярае і вышэйстаячае кіраўніцтва, і падначаленыя супрацоўнікі. Менавіта так складваўся лёс Міхася Тондзеля — яго любілі ўсе, хто сустракаўся з ім.

У Міхася Тондзеля было шмат планаў, шмат новых праектаў, над якімі ён працаваў нават у клінічнай бальніцы, адкуль спадзяваўся выйсці, каб прадоўжыць работу. І мы таксама да апошняга дня верылі ў гэта. Усё здарылася раптоўна, і таму асабліва цяжка для сям'і, для нас, тых, хто працаваў з ім... Ён пакінуў светлы след у нашым жыцці.

**Валянціна НЯЎЗОРАВА.**

КІРАЎНІКІ КАЛЕКТЫВАЎ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ З-ЗА МЯЖЫ НА КУРСАХ У МІНСКУ

# І ЗАГУЧЫЦЬ БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ

У канцы снежня на базе Беларускага інстытута праблем культуры працавалі курсы па перападрыхтоўцы кіраўнікоў калектываў мастацкай самадзейнасці нашых суайчыннікаў з зарубежных краін. Курсы праводзіліся Міністэрствамі культуры і Беларускім таварыствам па сувязях з суайчыннікамі за мяжой (таварыства "Радзіма"). На курсы прыехалі слухачы з Харкава, Кіева, Івана-Франкоўска, Іркуцка, Новасібірска, Масквы, Уфы, Таліна, Бішкека, Шальчынінкая (Літва) і Рэспублікі Польшча.

З удзельнікамі курсаў займаліся высокапрафесійныя выкладчыкі, якія знаёмілі іх з беларускім фальклорам, абрадамі, народнымі песнямі і танцамі.

У адзін з апошніх дзён работы курсаў у таварыстве "Радзіма" адбылася сустрэча гасцей з супрацоўнікамі таварыства і Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей. У час сустрэчы абмяркоўваліся пытанне далейшага пашырэння сувязей паміж беларускімі арганізацыямі за мяжой і Беларуссю, аказання дапамогі ў культурным жыцці замежных беларусаў, у вывучэнні роднай беларускай мовы. Удзельнікі курсаў выказалі падзяку за тыя веды, што яны атрымалі, а таксама шэраг слушных заўваг.

Н. Міронава (Кыргызстан) сказала цёплыя словы ў адрас таварыства "Радзіма" за тое, што яно не забывае сваіх суайчыннікаў, па магчымасці дапамагае літаратурай навукова-метадычнай і мастацкай, запісамі народнай музыкі. Таццяна Падышава з Таліна выказала задавальненне тым, што Беларусь жыве нармальным, паўнакроўным жыццём.

Спадабалася гасцям паездка ў Заслаўе, наведванне канцэртаў, наогул уся культурная праграма.

Гаворачы аб вялікай ролі, якую і іх жыцці адыгрывае газета "Голас Радзімы", суайчыннікі выказалі некалькі просьбаў. Яны сказалі, што вельмі карысным было б для іх, каб на старонках газеты больш друкавалася матэрыялаў аб нацыянальным адзенні, абрадах, танцах, каб часцей друкаваліся беларускія песні з нотамі.

Усе ўдзельнікі курсаў атрымалі зборнікі народных песень і танцаў, сучасныя песні, відэазапіс выступленняў папулярных калектываў народнай музыкі і танца, навукова-метадычную літаратуру.

**Яўген ХАРЭЎСКІ.**





**НА ЗДЫМКУ: удзельнікі курсаў на сустрэчы ў таварыстве "Радзіма"; перад гасцямі выступае калектыў "Вязынка".**

# З ПАДЗЯКАЙ!

У Беларускім інстытуце праблем культуры скончыліся заняткі чарговай групы замежных суайчыннікаў на курсах павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў і ўдзельнікаў самадзейных хораў і ансамбляў.

Шчыра дзякуем грамадскай арганізацыі "Радзіма" за яе запрашэнне прыехаць у Беларусь. Пакідаем Мінск з глыбокім пачуццём любові да Беларусі і вялікай удзячнасцю да выкладчыкаў, што вялі з намі заняткі.

Метадысты інстытута распрацавалі праграму разнастайных заняткаў, што ўключала паглыбленае знаёмства з народнай творчасцю, абрадамі народных святаў, песнямі, музычнай культурай, рамёствамі, а таксама практычныя заняткі па арганізацыі этнаграфічных святаў, іх рэжысуры, развучванню беларускіх песень, танцаў. Нас запрашалі на заняткі са студэнтамі Універсітэта культуры, якія рыхтуе кіраўнікоў ансамбляў, арганізатараў і рэжысёраў народных свят. Мы прымалі ўдзел у гэтых занятках, што падалося нам вельмі цікавай формай навучання ў гэтым напрамку. Паспявалі, патанцавалі, пагулялі ў святочныя гульні з Пятром Гудам і ягонымі студэнтамі. Слухалі лекцыі Уладзіміра Раговіча і Алега Аляхновіча аб асаблівасцях тактоўкі і складу народных спеваў, спявалі разам з імі, каб засвоіць на практыцы гэты склад. Пабывалі на рэпетыцыях-занятках студэнтаў — навучэнцаў на кіраўніцкай ансамблю ў Івана Дробыша. Пабачылі фрагменты свята "Каляда", Батлейку; пабывалі ў музеі прыкладнога мастацтва, дзе сабраны вырабы студэнтаў Мінскага універсітэта культуры, на кафедры Івана Керчука. Там жа пазнаёміліся з студэнцкімі распрацоўкамі элементаў беларускага жаночага і мужчынскага строяў з розных мясцовасцяў Беларусі, пабачылі вышыўкі, тканіны, рэчы з саломкі, выраблены студэнтамі.

Іван Крук давёў да нас шыфры беларусаў і развіццё сімволікі народных святаў і абрадаў ад часоў паганства да трансфармацыі яе ў хрысціянства. Гэта можна слухаць бясконца!

Вялікае месца было адведзена гістарычна-культурнай праграме. Запомнілася наведванне музея Максіма Багдановіча. Адбылася экскурсія ў Заслаўе. Дырэктар гісторыка-этнаграфічнага музея А. Калбаска цікава распавядаў аб гісторыі рода князя полацкага Рагвалода і ягонай дачкі Рагнеды, што мае шмат адлюстраванняў у беларускім мастацтве. Пабылі ў Нацыянальным навукова-асветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны, дзе нас азнаёмілі з гісторыяй заснавання Інбелкульта і Беларускай акадэміі навук, імёнамі выдатных дзеячаў культуры і навукі.

Вельмі ўдзячныя нашым гідам і апекунам Сняжане Галоўчыц і Алене Казловай, якія аддалі нам шмат часу і ўвагі, па меры магчымасці далучылі да тэатра і філармоніі.

Ад'язджаем узбагачаныя ведамі, з пашыранымі поглядамі на месца народнай творчасці ў сучасным мастацтве і культуры.

Па даручэнні групы
**Алеся БАБАРЭКА.**

г. Масква.

# ПАРТЫЗАНСКІ ГЕНЕРАЛ З АМЕРЫКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 2-й стар.).

скую, жыў на пчальніку з бацькам — далей ад калчакаўскіх шпіёнаў. Там яго і засталі паўстанцкія падзеі, якія ён потым апісаў у сваёй кнізе.

* * *

Алтайская губерня ў гады грамадзянскай вайны была адным з буйнейшых раёнаў партызанскага руху ў Сібіры. У жніўні 1919 года насельніцтва Горнага Алтая падзялілася на два непрымірымыя варожыя лагеры і пачало братазабойчую вайну: адны змагаліся на баку бальшавікоў, другія, як лічылася да нядаўняга часу, — белагвардзейцаў і замежных інтэрвентаў. Але і тыя і другія змагаліся за свой кут, сям'ю, дом, зямлю. Учарашнія суседзі станавіліся кроўнымі ворагамі.

Паўстанцы, беднае сялянства выступілі са зброяй у руках супраць заможных казакоў. Хваля паўстанцкага руху хутка ахапіла ўсе стэпавыя раёны Алтая. Узброенае казацтва на першым часе вытрымала націск паўстанцаў. Але гэта працягвалася да таго часу, пакуль у паўстанцкі рух не ўключылася сялянства з сёл Горнага Алтая.

Казакі, як вядома, былі найбольш адданымі самадзяржаўю войскамі. Пасля захопу і далучэння Сібіры да Расійскай імперыі, каб забяспечыць панаванне на чужой зямлі і мецы сілу, якая б падаўляла паўстанні карэннага насельніцтва гэтага рэгіёна, царскі ўрад з Дона і Урала ў Сібір перасяліў казакоў, для якіх уздоўж усёй усходняй граніцы Сібіры пабудавалі пасёлкі. Ланцуг гэтых пасёлкаў называўся загараджальнай казацкай лініяй. Сібірскія казакі надзяляліся ўрадлівай зямлёю, карысталіся значнымі прывілеямі. Сярод іх было шмат заможных.

Загараджальная лінія цягнулася ад Урала да Далёкага Усходу. Казацкія пасяленні былі фарпостам, які абараняў Расійскую дзяржаву ад знешніх ворагаў.

Казацкія станіцы на Алтаі былі багатыя. Яны валодалі значна большымі надзеламі, чым мясцовыя сяляне. У Чарышскай станіцы акрамя казакоў жылі і так званыя разначынцы: настаўнікі, фельчары, рамеснікі, прыказчыкі і інш. Гэтым людзям зямельных надзелаў наогул не прадугледжвалася, як і Аляксандру Траццяку. У яго была цікавасць да сельскай гаспадаркі, асабліва да пчалярства. І ён арганізаваў на заімцы сабе пчальнік. Хвалі паўстанцкага руху неўазабае перакінуліся на сёлы Горнага Алтая. Паўстанцкія сілы ў жніўні 1919 года ўжо складалі 5 тысяч чалавек.

Неўзабаве яны акружылі Чарышскую і запатрабавалі ад казакоў здаць зброю і выдаць карніка есаула В. Шастакова.

Вось у гэты нялёгкі і складаны час і сустрэўся з імі ўпершыню І. Траццяк, які знаходзіўся на пчальніку ў брата, хаваючыся ад рэпрэсій станічнага атамана Шастакова.

Гэта адбылося 21 жніўня 1919 года.

Хутка ён прыняў самы актыўны ўдзел у партызанскім руху.

* * *

"23 ліпеня 1918 года я пакінуў Амерыку, больш дакладней, Сан-Францыска (Каліфорнія), каб праз Ціхі акіян і Японію перабрацца ў Савецкую Расію, — піша Траццяк у кнізе "Партызанскі рух у Горным Алтаі ў 1919 годзе". — У мяне было цвёрдае жаданне і непахісны намер вярнуцца на радзіму, у сваю Беларусь, каб разам з пралетарыятам, які перамог, змагацца за ўмацаванне савецкай улады і пабудову сацыялістычнага грамадства. Пасля доўгіх пакут мне ўдалося пераадолець тыя перашкоды, якія чыніліся японскімі і кітайскімі чыноўнікамі кожнаму бальшавіку, які вяртаўся з эміграцыі. Мне ўдалося таксама паспяхова прабрацца праз усе кардоны і заставы белагвардзейцаў, якія ў той час пачалі захопліваць Далёкі Усход. Толькі ў кастрычніку 1918 года я дабраўся да Новасібірска. Тут я даведаўся, што белагвардзейцы паспелі ўжо захапіць частку Урала і што праз белагвардзейскі фронт мне ніяк не ўдасца прабрацца на радзіму, у Беларусь. Як быць далей? На Алтаі, у Чарышскай казачай станіцы, жыў мой брат Аляксандр. Рашыў паехаць да яго. У станіцу я прыехаў 28 кастрычніка. Пазнаёміўшыся з маімі дакументамі, станічны атаман В. Шастакоў сказаў майму брату: "Твой брат — эмігрант, скажы яму, каб сядзеў спакойна, мірна, ціха, інакш..."

Але як можна было спакойна сядзець, калі навокал бурліла класавая барацьба, а я лічыў сваім бальшавіцкім абавязкам прымаць актыўны ўдзел у гэтай барацьбе.

Даведаўшыся, што я прыбыў з Амерыкі, да мяне часта прыходзілі казакі і прасілі расказаць, як рабочыя і сяляне жывуць за мяжою. Які характар мелі мае гутаркі, бачна з таго, што хутка я праславіўся ў станіцы як бальшавік. Каб пазбегнуць арышту, я схаваўся ў брата на пчальніку. Гэта было ў ліпені 1919 года.

Ад брата і бацькі, якія часта мяне наведвалі, я ў хуткім часе дазнаўся, што на Алтаі паднялося паўстанне. І як я ўзрадаваўся, калі аднойчы, нечакана для сябе, пачуў раптам перастрэлку: я зразумеў, што наступаюць паўстанцы. І сапраўды, паўстанцы знаходзіліся ў вярстах дзвюх ад станіцы. У хуткім часе падышоў невялікі атрад паўстанцаў, які забраў мяне, а таксама майго бацьку і брата як палонных і адвёў у штаб. Я прад'явіў дакументы, якія сведчылі аб тым, што я свой чалавек, што я працяглы час прымаў за мяжою актыўны ўдзел у рэвалюцыйным рабочым руху. Аднак ніякага толку не дабіўся. Мой знешні "еўрапейскі" выгляд (я быў апрануты, як іншаземец: на галаве мяккі капялюш, на нагах — гетры і г. д.), а таксама мае замежныя дакументы выклікалі ў паўстанцаў некаторую перасцярогу.

Я апынуўся ў вельмі цяжкім становішчы: з аднаго боку, мне пагражалі казакі, з другога — паўстанцы глядзелі на мяне, як на чужынца.

У штабе нам заявілі, што пасля ўзяцця Чарышскай станіцы нас вызваляць. Але як толькі паўстанцы занялі станіцу, белыя зрабілі спробу выбіць з Чарышскай паўстанцаў. Баючыся, каб у тыле не падняўся мяцеж, паўстанцы эвакуіравалі ў сяло Зашчалак усіх казакоў, якія добраахвотна здаліся, а разам з імі і мяне з братам. Але хутка нас вызвалілі, бо ўпэўніліся, што мы не казакі. Я вырашыў пайсці ў Стэпавы раён: у сяло Зіміна, дзе знаходзіўся Галоўны штаб партызанскага руху. У Зіміне, думаў я, мне ўдасца лягчэй далучыцца да паўстанцаў. Але па дарозе зноў быў захоплены ў палон, і мяне зноў прывялі ў штаб чарышскіх паўстанцаў.

На гэты раз падазрэнне адносна маёй асобы настолькі развеялася, што я нават быў дапушчаны да ўдзелу ў ваеннай нарадзе, якую кіраўнікі партызанскіх атрадаў сабралі 21 жніўня ў сяле Малы Башчалак. На гэтай нарадзе ставілася пытанне аб умацаванні баяздольнасці паўстанцкіх атрадаў.

На нарадзе атмасфера была вельмі нервовая. Усе былі пад уражаннем паведамленняў аб паражэнні паўстанцаў. Мне здавалася, што ніхто з выступаючых не ўяўляў сабе сапраўдных прычын паражэння, а галоўнае, ніхто не ўказваў выйсця са становішча, якое склалася.

Калі мне далі выступіць, я перш-наперш адзначыў, што паўстанцкі фронт больш за ўсё пакутуе ад адсутнасці дысцыпліны, таварыскай спайкі. Многія камандзіры не адказваюць перад вышэйшым камандным саставам за даручаную ім справу, а дзейнічаюць, як ім уздумаецца. "Трэба, — казаў я, — умацаваць дысцыпліну. Трэба, каб галоўнаму паўстанцкаму штабу былі бездакорна падпарадкаваны штабы паўстанцаў ва ўсіх вёсках".

На гэтым я скончыў сваё выступленне. Яно зрабіла вялікае ўражанне, і тут жа я быў абраны камісарам па арганізацыі паўстанцкай арміі.

Каб прыступіць да выканання гэтай работы, трэба было ведаць размяшчэнне паўстанцкіх атрадаў і быць знаёмым з Горным Алтаем. Я ж усяго гэтага не ведаў, у нас нават не было геаграфічнай карты краю. І таму для аб'езду раёнаў размяшчэння паўстанцкіх атрадаў быў мне выдзелены ў дапамогу М. Якімаў, былы матрос. Нам далі ўказанне ў першую чаргу ўстанавіць сувязь са стэпавым паўстанцкім рухам".

* * *

У пачатку 1917 года, калі ў Расіі ўспыхнула Лютаўская рэвалюцыя, рускія палітычныя эмігранты, якія пражывалі ў ЗША, пачалі рыхтавацца да ад'езду на радзіму. Але калі ў канцы 1917 года адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя, амерыканскі ўрад забараніў выезд рускім рэвалюцыянерам у Расію. На чыгуначных станцыях і параходах быў устаноўлены строгі кантроль. У гэтых абставінах І. Траццяк з групай сяброў-аднадумцаў пераязджае з Філадэльфіі на заходняе ўзбярэжжа ЗША ў Сан-Францыска і паступае на працу кляпальшчыкам на суднабудаўнічую верф. У горадзе быў створаны камітэт абароны палітычных вязняў. Па даручэнню "Федэрацыі саюза рускіх рабочых" Траццяк працуе ў гэтым камітэце. 15 чэрвеня 1918 года Траццяку і яго сябрам удалося дабіцца дазволу на выезд у Расію. З вялікімі цяжкасцямі яны атрымалі месца на кітайскім параходзе.

* * *

І. Траццяк і М. Якімаў пасля ваеннай нарады накіраваліся ў горы, каб з разрозненых паўстанцкіх груп арганізоўваць партызанскія атрады.

Становішча паўстанцаў, разгромленых у баях, было цяжкім. Яны не прадбачылі, што барацьба зацягнецца так надоўга. Выбітыя з вёсак калчакаўцамі, яны хаваліся ў гарах. Была восень. Лілі халодныя дажджы, часта ішоў снег. Каб як-небудзь сагрэцца, яны ўвесь час палілі вогнішчы. Запасы хлеба скончыліся. Некаторыя не вытрымлівалі, спускаліся з гор і траплялі ў рукі казакоў, якія выхваляліся, што з надыходам зімы паўстанцы самі здадуцца. Халодная восень, дажджлівае надвор'е, голад узмацнілі ўпадніцкі настрой паўстанцаў.

Камандзіры паўстанцкіх груп і атрадаў па распараджэнню І. Траццяка сабралі паўстанцаў на сход, на якім ён выступіў з прамовай. Траццяк указаў на прычыны паражэння паўстанцаў і абрушыўся на панікёраў.

Змораным, даведзеным да адчаю ўзброеным сялянам гэты незвычайна апрануты чужынец, які нават не ўмеў добра і складна гаварыць па-руску, раптам прапаноўвае пакінуць свае родныя вёскі і сёлы, ісці ў суседні павет, далучыцца да іншых партызанскіх атрадаў і разам пачаць баявыя дзеянні супраць армій Калчака.

І раптам у натоўпе пачуліся крыкі:

— Расстраляць яго! Гэты чужынец — шпіён і правакатар!

На працягу трох гадзін Траццяк, стоячы на пні, угаворваў партызан, то сароміў іх, то даводзіў, што ўсе яны загінуць ад калчакаўскіх куль і шабляў, калі не злучацца з іншымі партызанскімі атрадамі. І перамог.

Гэты памятны дзень быў пераломным для паўстанцаў. І справа не ў тым, што з паўстанцаў былі створаны батальёны і роты, але і арганізаваны Першы конны партызанскі полк. Камандзірам яго паўстанцы выбралі І. Траццяка. У палку налічвалася каля 400 чалавек. Паўстанцы былі ўзброены вінтоўкамі, бярданкамі, паляўнічымі стрэльбамі. Да гэтай зброі не хапала патронаў. Пры такім становішчы, вядома, на першым часе трэба было ўхіляцца ад сустрэч з добра ўзброеным ворагам.

Раніцай 17 верасня паўстанцка-партызанскі полк Траццяка выйшаў з горнай цясніны. І пачаў папаўняцца ўзброенымі групамі сялян, якія спускаліся з гор, дзе хаваліся ад калчакаўскіх карнікаў. Неўзабаве да палка далучыўся партызанскі атрад І. Бунькова ў колькасці 60 чалавек.

19 верасня — у дзень баявога хрышчэння — партызанскі полк павёў наступленне на пасёлак Панамарова і выбіў з яго калчакаўцаў.

У гэты час І. Траццяк узняў пытанне аб паходзе партызанскага палка праз Бійскую казацкую лінію на злучэнне з партызанскімі часцямі Я. Мамантава, якія дзейнічалі ў стэпавым Алтаі. Але радавыя партызаны не хацелі далёка адыходзіць ад сваіх вёсак. Камандзіру ўсё ж удалося пераканаць партызан, што толькі пасля злучэння з партызанскімі часцямі Мамантава будзе лягчэй вызваляць тыя вёскі, у якіх партызаны пакінулі свае сем'і.

Вырашана было ісці ў Чарнаануйскі раён, дзе дзейнічаў паўстанцкі полк на чале з былым франтавіком П. Какорыным.

28 верасня ў сяле Чорны Ануй палкі сустрэліся і былі аб'яднаны ў Першую горнаалтайскую брыгаду. Камандзірам быў абраны І. Траццяк.

Штаб брыгады ў Чорным Ануі стаў цэнтрам партызанскага руху ў Горным Алтаі.

Тут палкі Траццяка аб'яднаіся з мясцовымі партызанамі, і была створана Першая горнаалтайская дывізія.

Пазней у сувязі з павелічэннем асабовага складу дывізіі было сфарміравана 11 палкоў, якія былі зведзены ў тры брыгады і аб'ядноўвалі 18 тысяч партызан.

Партызанская дывізія пад камандаваннем І. Траццяка да канца баёў была гаспадаром у Горным Алтаі. Яна, дысцыплінаваная і добра ўзброеная, наводзіла панічны жах на карныя атрады і часці калчакаўцаў. Партызанскае войска нашага земляка неўзабаве выступіла на Чуйскі тракт і разбіла карныя часці палкоўніка Хмялеўскага. Потым палкі Траццяка вызвалілі ад карнікаў усю тэрыторыю ўздоўж Чуйскага тракта на працягу 250 кіламетраў і стварылі тут грамадзянскую ўладу — рэўкомы.

9 снежня 1919 года ў сяле Марайха партызаны дывізіі Траццяка сустрэліся з часцямі арміі Я. Мамантава.

У сакавіку 1920 года Першая горнаалтайская дывізія была расфарміравана. Старэйшыя па ўзросту партызаны былі залічаны ў рады Чырвонай Арміі.

Партызанская дывізія на чале з І. Траццяком не толькі паспяхова вяла абарончыя баі, але і пераходзіла да актыўных наступальных аперацый. Дывізія заняла Уйманскі і Чуйскі тракты — галоўныя гаспадарчыя і транспартныя артэрыі Горнага Алтая, якія злучалі Расію з Манголіяй, Кітаем, і ў хуткім часе стала паўнаўладным гаспадаром, кантралюючы ў тыле армій Калчака ўвесь Горны Алтай і адцягваючы на сябе значныя сілы ворага.

Сам жа І. Траццяк не быў ваенным спецыялістам, не меў ніякага баявога вопыту і ваеннае майстэрства спасцігаў у ходзе баёў. Правучыўшыся ў школе ўсяго тры зімы, ён вымушаны быў пакінуць вучобу. З 14 гадоў быў батраком у папа, потым восем гадоў працаваў лесарубам у лесапрамыслоўца, пазней рэвалюцыйная дзейнасць, эміграцыя, "рабочыя універсітэты" ў Германіі, ЗША. "У эміграцыю ён трапіў вымушана, а ў партызанскі рух Горнага Алтая — па загаду сэрца і розуму, бо гэта было прадыктавана яго пралетарскаю свядомасцю", — пісаў пазней пра свайго старэйшага брата А. Траццяк. Тут, у Горным Алтаі, выявіліся яго арганізатарскія здольнасці, з дапамогай сваіх паплечнікаў ён стаў вопытным военачальнікам, яго ваенная пасада адпавядала сучаснаму воінскаму званню генерал-маёра. І. Траццяк быў адным з выдатных арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Заходняй Сібіры. Ён быў узнагароджаны ордэнам Баявога Чырвонага Сцяга.

* * *

Пасля заканчэння грамадзянскай вайны ў Сібіры І. Траццяк па стану здароўя быў адкамандзіраваны ў распараджэнне Бійскай арганізацыі РКП(б). У 1923 годзе здароўе яго пагоршылася. Давала аб сабе знаць цяжкая хвароба — туберкулёз, на які ён захварэў у эміграцыі.

16 лютага 1937 года І. Траццяк быў нечакана арыштаваны і абвінавачаны як шпіён замежных разведак. Потым быў пасмяротна рэабілітаваны. Але да гэтага часу невядома, дзе ён пахаваны. У даведцы ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі, адрасаванай у Беларускую Савецкую Энцыклапедыю, 5 ліпеня 1973 года паведамлялася, што І. Траццяк "умер в местах заключения 17/VIII — 1939 года". Родныя і блізкія не могуць нават пакласці кветкі на яго апошняе зямное прыстанішча.

Свята ўшаноўваюць памяць Івана Траццяка ў Беларусі і Расіі. У Уздзенскім раённым гісторыка-краязнаўчым музеі І. Траццяку прысвечаны стэнд, які расказвае пра яго жыццё і дзейнасць.

Шэраг цікавых дакументаў і матэрыялаў, фотаздымкаў захоўваецца ў музеях Барнаула, Бійска. На доме ў Бійску, дзе ён жыў да арышту, устаноўлена мемарыяльная дошка, вуліца носіць яго імя. У кнігах, прысвечаных грамадзянскай вайне ў Заходняй Сібіры і Алтайскім краі, часопісах, газетах Расіі і Беларусі апублікавана шмат матэрыялаў пра І. Траццяка.

Беларусь ганарыцца сваім славутым сынам. Памяць пра яго жыве на нашай зямлі.

**Мікола КАПЫЛОВІЧ.**

загартаванае на блытаных шляхах сучаснага мастацтва, б'еццa ўдзячнасцю пры ўспамінах аб адным толькі Вашым прозвішчы. Шмат для каго Вы былі бацькам, як сказаў адзін з лепшых вучняў Вашых Марк Шагал. Мастак — творца — працаўнік — педагог, Вы незвычайнай плённасцю творчага пэндзля і высокім прыкладам асабістай сціпласці, але глыбока змястоўным жыццём, служыце ўзорам для многіх і многіх... Дазвольце ж, дарагі Юрый Майсеевіч, яшчэ раз павіншаваць Вас з вялікай і важнай падзеяй як Вашага асабістага, так і грамадска-культурнага жыцця і пажадаць Вам далейшых поспехаў на шляху раскрыцця сваіх творчых здольнасцей. Мн., 23.4.26. Мастакі А. Бразер, У. Майзеліс, А. Касцялянскі, Л. Зевін, Ф. Рабкіна, І. Бескін".

Акрамя таго, вучнямі Ю. Пэна былі З. Азгур, Л. Шульман, Д. Альхоўскі, М. Мешчанінаў, Л. Каль, С. Гершаў, Б. Гарэлік, С. Ізраеліт, І. Фрадкін, В. Салерцінскі, Г. Ніжнікаў і інш.

Бераг Дзвіны, яе высокія ўзгоркі са старажытнымі вежамі і той "варонін камень", куды забіраліся захаханыя віцябчане, вельмі дарэчы ўпісваюць фігурку мастака з мальбертам, які ідзе нячутнымі крокамі, удыхаючы цудоўнае ранішняе паветра. Яго не баяліся, яму давяралі і раскрывалі свае ўзнёслыя сэрцы будучыя вялікія творцы.

**Людміла НАЛІВАЙКА.**

* * *

**ПРЫВІТАННЕ М. ШАГАЛА Ю. ПЭНУ Ў СУВЯЗІ З 25-ГОДДЗЕМ ЯГО ТВОРЧАЙ ДЗЕЙНАСЦІ. 14 ВЕРАСНЯ 1921 ГОДА.**

Дарагі Юрый Майсеевіч!

Значыць усё-такі Віцебск, для якога Вы многа зрабілі, Вам надладзіць неўзабаве юбілей, і я да гэтага моманту не магу не пасласць Вам гэтыя радкі. Я ўспамінаю сябе хлопчыкам, калі я падымаўся на прыступкі Вашай майстэрні. З якім трапятаннем я чакаў Вас: Вы павінны былі вырашыць мой лёс у прысутнасці маёй нябожчыцы маці. І я ведаю, колькі яшчэ ў Віцебску і ўсёй губерні юнакоў Вы лёс вырашылі. Ваша менавіта майстэрня першая ў горадзе вабіла дзесяткі гадоў. Вы першы ў Віцебску. Горад не зможа Вас забыць. Вы выхавалі вялікае пакаленне яўрэйскіх мастакоў. Яўрэйская грамадства Расіі павінна гэта ведаць і будзе ведаць. Я перакананы, што Віцебск, якому Вы аддалі 20 гадоў жыцця, па годнасці рана ці позна ўвекавечыць Вашу працу, Вашы работы, якія характарызуюць пэўную паласу жыцця Расіі і яўрэяў, будуць сабраны ў спецыяльным месцы ў будучым музеі горада Віцебска, а некаторыя з іх адыдуць у Цэнтральны Яўрэйскі Музей, а мы, адны з Вашых першых вучняў, будзем асабліва помніць Вас. Мы не асляпелены. Якая б кірмашыха ні кінула б нас у галіне мастацтва далёка ад Вас па накіраванню, Ваш вобраз сумленнага працаўніка-мастака і першага настаўніка усё-такі вялікі. Я люблю Вас за гэта. Цалую Вас, мілы мой першы настаўнік, да дня Вашага 25-гадовага юбілею — 25-гадовай дзейнасці ў Віцебску. Жывіце яшчэ і працягвайце Вашу любімую дзейнасць і ў новых умовах жыцця.

**Ваш адданы Марк ШАГАЛ.**
Масква, 14 верасня 1921 года.

*РОДАМ СА СКІДЗЕЛЯ*

# ЛІТАРАТУРНЫ ГАРАДОК

"З рукапісаў, якія не гараць". Так назваў сваю прадмову да вялікай падборкі вершаў Пятра Сеўрука Янка Брыль, якая была надрукавана некалькі гадоў таму назад у часопісе "Полымя". Брыль высока ацаніў вершы Пятра Сеўрука, якія праляжалі ў яго сястры Марыі Мазалеўскай каля паўсцідзесяці год.

Праўду кажуць: вялікае бачыцца на адлегласці. Праз дзесяцігоддзі творчасць Сеўрука бачыцца надзённай і зараз. Брыль сказаў пра яго спадчыну (пра вершы): "Доўга яны праляжалі! Малодшая сястра паэта, Марыя Якаўлеўна Мазалеўская, што захавала іх у Скідзелі, дала нам магчымасць прапанаваць чытачам "Полымя" гэтыя шчырыя вершы са спадчыны яшчэ аднаго, балюча, крыўдна не здзейсненага таленту".

Лёс адвёў Пятру Сеўруку мала гадоў. Нарадзіўся ён у Скідзелі ў 1905 годзе, а памёр у 1929. Тая чвэрць стагоддзя, што адвёў яму лёс, была бурнай, шчаслівай і трагічнай. Рэвалюцыя нікога не пакінула абыякавым, яна дала людзям спадзяванне на лепшую долю, але пасля пачаліся масавыя здзекі з народа, з яго спадзяванняў застаўся пшык.

Пятро пабыў з бацькамі ў бежанстве ў Ліпецку, зведаў творчы ўздым народа, пабачыў на свае вочы яго імкненне да свабоды, да роўнасці, шчасця. А вярнуўся на радзіму ў 1921 годзе — і апынуўся ў галечы, у абставінах нацыянальнага і палітычнага ўціску. Ён стаў арганізатарам барацьбы за волю, беларушчыну, за ўз'яднанне беларускай зямлі ў адзіную дзяржаву. Гурток Таварыства беларускай школы, які ўзначаліў Пятро Сяўрук, аб'яднаў сумленных змагароў за светлы лёс Бацькаўшчыны. Пасля Пятра выбралі кіраўніком Гродзенскай арганізацыі ТБШ. Улады яго праследавалі, арыштоўвалі, садзілі ў турму. Але нішто не зламала вольналюбівы дух паэта. І сёння яго вершы гучаць надзённа.

**З грудзей рвецца крык пратэсту**
**Разам з заклікам к змаганню,**
**Бо душа баліць і рвецца**
**Да балючага жадання**
**Лепшай долі.**

**Гэту боль я разумею,**
**Бо не раз быў ён прыбіты,**
**І не раз гарэў надзеяй**
**Шлях знайсці да светлай мэты —**
**Вызвалення.**



З лёгкай рукі Янкі Брыля вершы Сеўрука друкаваліся ў газеце "Літаратура і мастацтва", у часопісе "Полымя". Ладныя падборкі твораў апублікаваны ў альманахах "Ростані волі", "Шляхам гадоў".

Час няўладны над сапраўднай творчасцю. Яна выжывае ў любых абставінах. Можна яе прыдушыць, прыглушыць, але знішчыць нельга. Гэта яскрава праявілася і на прыкладзе маіх землякоў — літаратараў са Скідзеля і яго ваколіц.

І Пётр Сяўрук — родны брат маёй маці, і Міхась Васілёк для мяне вельмі дарагія людзі. Міхась Васілёк — паэт своеасаблівы. Нічыя творчасць не спалучана так з маёй радзімай, як яго. Да таго ж ён быў у сяброўскіх адносінах з сям'ёй майго дзеда, яго сынам Пятром Сеўруком, сябраваў з маім бацькам. Усе мае блізкія сваякі і родныя называлі яго не інакш, як "наш Васілёк".

Ён перш за ўсё паэт-змагар, прысвяціў сябе, сваю паэзію адной галоўнай мэце — вызваленню Заходняй Беларусі з-пад прыгнёту буржуазнай Польшчы, уз'яднанню ўсіх беларускіх земляў. Народны рух за ажыццяўленне гэтай ідэі быў шырокі, масавы, і Васілёк ішоў у першых радах барацьбітоў.

**Мы барацьбой гарым, мы — сіла,**
**У нас жыве бунтарны дух.**
**На барыкады пойдзем смела,**
**Далоў ярмо, прыгон-панцуг!**

Гэты верш "У бой на акупанта" быў пакладзены на музыку. Песня стала своеасаблівым гімнам, з ім ішлі на барыкады ў поўным сэнсе гэтага слова. Аўтар яго быў пад пільным наглядам паліцыі, яго арыштоўвалі, садзілі ў турму, зборнік вершаў "Шум баравы" канфіскавалі. А Васілёк не здаваўся, прайшоў праз усе выпрабаванні, уцёк з нямецкага палону ў жніўні 1941 года, узначальваў у час вайны Скідзельскі антыфашысцкі падпольны камітэт, пасля вайны працаваў у рэдакцыі газеты "Гродзенская праўда", памёр у 1960 годзе.

На прыкладзе майго роднага гарадка Скідзеля добра прасочваецца повязь часоў, наследаванне традыцый. У пачатку стагоддзя, яшчэ і раней асабліва бурна праявіліся вызваленчыя настроі. Вядомая Эліза Ажэшка жыла на Скідзельшчыне, адлюстравала яе ў сваіх творах. У рамане "Над Нёманам" яна апісала сапраўдныя падзеі, што адбыліся ў вёсцы Багатыравічы. Пра яе жыхароў пісьменніца сказала: "Гэта быў народ, пакрыты загарам, багата абмыты потам, з агрубелай скурай твару і рук, але затое ў гэтых людзей прамая спіна, якая ні перад кім не гнулася, моцныя рукі і, нягледзячы на вузкі кругагляд, пранікілвыя і смелы погляд".

У Баброўні, цiхай лясной вёсачцы, дзе нарадзіўся Міхась Васілёк, пачаўся жыццёвы шлях яшчэ аднаго пісьменніка — Макара Краўцова, дзядзькі Міхася Васілька. Друкаваўся ён у асноўным пад псеўданімам Макар Краўцоў. Яго творчасці таксама ўласцівы дух таго часу — дух барацьбы за беларускасць, за вызваленне з-пад польскай акупацыі, за свабоду. Яго таксама праследавала паліцыя, арыштоўвала, ён сядзеў у турме.

Макар Краўцоў быў вядомым літаратарам. Выдаваў часопіс "Саха". Шмат перакладаў. У Вільні выдаў восем кніжак рускіх і польскіх літаратараў. Сярод іх — Лермантаў, Купрын, Караленка, Гоголь, Сянкевіч.

А верш Макара Краўцова стаў сапраўдным гімнам у Заходняй Беларусі:

**Мы выйдзем шчыльнымі радамі**
**На родны вольны свой прастор.**

Верш нацыянальны па духу, баявы, гарачы:

**Імя і сілу беларуса**
**Няхай пачуе й бачыць той,**
**Хто смее нам нясці прымусы**
**І першы выкліча на бой.**
**Браты, да шчасця мы падходзім,**
**Хай гром грыміць яшчэ мацней.**
**У крывавых муках мы народзім**
**Жыццё Бацькоўшчыны сваёй.**

Прыкметны след пакінуў у заходнебеларускай паэзіі Сяргей Крывец, які нарадзіўся на хутары каля вёскі Дубна, а загінуў на фронце ў красавіку 1945 года. Кароткае жыццё дасталася паэту, але пражыў ён ярка, напісаў таленавітыя вершы аб сваім краі, народзе. Пакінуў нам свае думы пра жыццё, пра чалавека. Славіў дабрыню, дружбу, таварыскасць. Ганарыўся лепшымі рысамі беларуса: "Беларус з мазольнай доляй не багат, а горды". Паэту імпануюць такія народныя якасці, як гумар, любоў да песні. Яго творы асветлены талентам — самабытным і яркім, пазначаным уздзелам у вызваленчай барацьбе.

Пра Сяргея Крыўца ў прадмове да яго кніжкі "Дубок" мудры Рыгор Шырма сказаў: "Гэты рабочы з асветай два класы пачатковай школы меў багатую літаратурную эрудыцыю... Яснагучная ліра Крыўца прайшла знаёмыя заходнебеларускім паэтам этапныя шляхі "ад астрога да астрога" і абарвалася цiхім звонам у полымі ваеннага пажару, аставіўшы ў спадчыну нам вялікую любоў да народа".

**Пакуль у грудзёх бруіцца крой,**
**Не разлучуся я з народам.**

Альбо:

**Нас ужо не апалячыць,**
**Мы жывём і будзем жыць!**

Вялікая літаратурная спадчына выспела на Скідзельшчыне. Тут яе карані, тут і выснова



для яе творчага ўзлёту. Яна ўвабрала гордыя парыванні людзей да свабоды, да шчасця, адлюстравала дух эпохі, прыгажосць роднай зямлі. І сённяшняе жыццё скідлян у многім пазначана жыццём і творчасцю пісьменнікаў-землякоў. Прыязджаючы на радзіму, я гэта добра адчуваю.

Дачыненне да Скідзеля ў тым ці іншым плане маюць сучасныя беларускія літаратары. Да паэтаў цяперашняга пакалення належыць Аўгіння Кавалюк, родам з недалёкай ад Скідзеля вёскі Стральцы. Яе заўважыў і блаславіў у паэзію Міхась Васілёк. Яна выдала некалькі кніжак. У іх — замілаванне радзімай, развагі пра сучаснасць, трывога за лёс чалавецтва.

Упадабаў Скідзель Васіль Быкаў. Горад і яго ваколіцы — месца дзеяння аповесці "Пайсці і не вярнуцца": Зося Нарэйка, галоўная гераіня твора, родам са Скідзеля. Пісьменнік перадаў настрой, баявы дух скідлян, расказаў пра іх супраціўленне гітлераўцам. У аповесці — апісанні горада, яго наваколля, Нёмана і яго прытока Котры. Не зменены іншыя геаграфічныя назвы, у тым ліку вёскі Княжаводцы, якую фашысты спалілі разам з яе жыхарамі. Героі твора надзелены мясцовымі прозвішчамі.

Пра недалёкае мінулае і сучаснасць напісаў раман "Карані" Аляксей Карпюк. Адзін з яго герояў — Міхась Васілёк.

Янка Брыль яшчэ да вайны пасябраваў з сям'ёй Якуба Сеўрука — бацькі паэта Пятра Сеўрука. Ён быў у прыязных адносінах з сёстрамі Пятра — Марыяй і Вольгай. Муж Вольгі Даніла пісаў вершы, яму Брыль дасылаў свае на кансультацыю. Вольга і Даніла загінулі ў полымі вёскі Пузавічы, пахаваны ў Хатыні. Даніла стаў прататыпам героя аднаго з лепшых апавяданняў Брыля "Memento mori". А прататып Крушыны з яго рамана "Птушкі і гнёзды" — Міхась Васілёк, з якім Янка Брыль восенню 1941 года ўцёк з нямецкага палону.

У Скідзелі нарадзіўся паэт Алесь Чобат, дарэчы, мой сусед. Маюць дачыненне да спадчыны Пятра Сеўрука Данута Бічэль і Юрка Голуб. Яна прыняла ў музей творы паэта, а ён падрыхтаваў пра іх перадачу.

Уладзімір Калеснік таксама бываў у Скідзелі. Апошні раз, калі рыхтаваў анталогію заходнебеларускай паэзіі "Ростані волі". Уключыў у яе творы Міхася Васілька, Сяргея Крыўца, Пятра Сеўрука, Міхася Явара, сказаў пра іх сваё слова.

Такі ён — Скідзель літаратурны. Тут повязь часоў. Тут подых эпохі, дух свабоды.

**Мікалай ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Пётр СЯЎРУК; Даніла СКВАРНЮК — прататып героя з апавядання Янкі Брыля "Memento mori"; Міхась ВАСІЛЁК (другі злева) з супрацоўнікамі "Гродзенскай праўды" ў 50-я гады.**



# КАЛЯНДАР святаў і абрадаў беларусаў 1998

Алесь ПІСАРЫК

## ВЯСКОВЫ НАСТРОЙ

Мароз ці лясун закруціўся
ў кажух
І гурбы разгортвае гулка!
Мне звонка і молада! — рэху
кажу, —
Закружаны юнай снягуркай.

Як соладка страсныя вусны яе
Крамяняць калінавым сокам!
Гарачых снягірыкаў мне аддае...
І сонейка — яркаю зёлкай...

Заспанымі зорамі ў снезе
сляды...
Шыпіць пад рукою сцяжына...
Які ж гэта час, малады — залаты,
Калі цябе любіць жанчына!

У рэха ўсё той жа бадзяжны
настрой,
Збірае з марозам калядкі,
Каб дзябнуць па чарцы
пад елкай старой
І марыць пра новыя святкі...

А нам дай жа, месячык, зорную
ноч!
Распаліць дарогу палоззе.
Мы вып'ем за ўсіх маладых
па адной,
Каб шчасце і ў іх павялося!

Душа і гармонік разбудзяць
прасцяг
Святлічных аселіц і лядаў.
Хто хоча пачуць — да таго
даляцяць
Чароўныя зыкі калядаў.

Каля тысячы работ у рэзчыка па дрэву са Старых Дарог Ігара Лізуры. Яны разнастайныя па тэхніцы выканання і па тэматыцы. Шырокае кола яго інтарэсаў. У сваёй творчасці ён звяртаецца да гістарычнай тэматыкі, да матываў дзіцячых казак, да этнаграфіі. Цудоўная пластыка разьбы робіць работы Ігара Лізуры цікавымі для шырокага кола гледачоў. Яго творы знаходзяцца не толькі ў музеях Беларусі і Расіі, але і ў шматлікіх прыватных калекцыях за мяжой. Ігар Іванавіч навучае мастацтву разьбы па дрэву дзяцей у раённым Цэнтры народнай творчасці.

НА ЗДЫМКУ: Ігар ЛІЗУРА ў сваёй майстэрні.



Фота Яўгена КАЗЮЛІ.

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).

НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.

Тэлефоны: 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 233-16-56, 213-37-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
(220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 1881.
Падпісана да друку 5.1.1998 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.